# (14) Facebook

---

ВЕЛЬМІ Ж УЖО ПРЫЕМНА ПІСАЦЬ СВАІМІ, А НЕ ЧУЖЫМІ СЛОВАМІ …

Вось Ванда Марцінс, паэтка з літоўска-беларуска-польскага памежжа і адміністратар суполкі “Слова – песня Віленскага краю”, якая часта вельмі арганічна уплятае ў свае вершы мясцовыя словы і, маючы фантастычнае адчуванне глыбінных магчымасцяў мовы, нараждае часам цікавыя наватворы, напісала лірычна-задуменныя як бы мінорныя радкі пра хараство адзіноты на сваім “хутары”:

“… Па-праўдзе, толькі й назвы, што грабу - /Ў абдымку з ГРАБЛЕМ (выдзелена мною –П.С.) сноўдаю ля дома:/ Маліннік пазбіваўся ў каўтун, / Там шчаўе адрасло, там грыб ядомы…”.

Нехта звярнуў увагу на нестандартную форму -- “грабель”.

Я ўстаўляю свае тры грошы: “У Мудрова -- ГРАБЕЛЬ, па-мойму ЁН, мужчынскага роду. У апошняй кніжцы…”. Пазней спраўджваю, што гэта аберацыі маёй старэчай памяці. У Мудрова – АГЛАБЕЛЬ на с. 71 у “Замецены след”: “Адзін аглабель застаўся тырчаць у калыхлівым шарашу, паволі хістаючыся на бакі”.

Вядомая паэтка (сяброўка “правільнага” Саюзу) рашуча, як металічны шарык, кідае свой вердыкт: “ Граблі. Толькі множны лік”.

Далікатная Ванда Марцінс каіцца, як Марыя-Магдалена: “Перарабіць не цяжка, але няхай яшчэ пабудзе - вельмі ж ужо прыемна пісаць сваімі, а не чужымі словамі…”.

Канешне ж, -- што тут перарабляць? Напішы “Абняўшы граблі, сноўдаю ля дому …”, і ўвесь табе пераробак.

Але ж для мяне тады знікне сп. Ванда са сваім хутарам, сабакам і жабкамі, што, як зялёны гарошак, шпокаюць у сажалку. Да таго ж я для сябе бачу маладзіцу, якая абапіраецца на той грабель, як на колісь любага мужчыну, якога тут цяпер няма ...

Каб ставокі рэдактар некалі чысціў паўночнага ўсходніка Рыгора Барадуліна пад лекала сярэдне-беларускага кайнэ, не было б у нас ні саламіны, ні ягадзіны, ні капейчыны…

Не так у нас шмат засталося паэтаў і празаікаў, які дагэтуль чуюць галасы свайго роднага краю.